*Станіслаў ШУШКЕВІЧ*

# Мой лёс

*(Працяг. Пачатак у №203.)*

## 3. Фізікі і лірыкі

Я мог бы сёння быць натуральным расійцам.

Не жартую: улетку 1951 года, скончыўшы школу, адправіўся ў Маскву паступаць у інстытут сувязі. Бо на дзвярах мінскай тэлефоннай станцыі, што месцілася на вуліцы Карла Маркса, прачытаў абвестку, што там, у сталіцы СССР, набіраюць на фантастычную спецыяльнасць — тэлебачанне.

Але сама Масква зусім не спадабалася. Ад тлуму ды смуроду велізарнага горада ў мяне, хлопца з ціхай мінскай ускраіны, аж галава разбалелася. Так што, на шчасце, у апошні момант павярнуў ад дзвярэй прыёмнай камісіі, сеў на цягнік ды вярнуўся ў Мінск. Лічыце, на ўсё жыццё. Расійскае тэлебачанне панесла непапраўную страту.

Зрэшты, і ў родным горадзе былі выпрабаванні. Хоць, здавалася б, студэнцкі білет ужо ў кішэні — медалістаў жа належала залічваць без экзаменаў. Але, калі панёс дакументы на фізіка-матэматычны факультэт БДУ, пачалася цэлая эпапея.

Праз пару дзён выклікалі ды вымусілі тут жа ў памяшканні камісіі перапісаць аўтабіяграфію.

У маці ўжо быў вялікі досвед жонкі "ворага народа". Яна загадзя папярэдзіла, на чым могуць злавіць. Або на нейкім дробным несупадзенні звестак у першым і другім варыянтах. Або на зробленых у спешцы памылках — тады скажуць: які ж ты медаліст!

Нікуды не зазіраючы, я напісаў.

Пытаюцца: "Вы, мусіць, чарнавік у кішэні носіце, бо тут жа ўсё слова ў слова". — "Ды не, — адказваю зусім шчыра. — У мяне памяць такая".

На памяць сапраўды не скардзіўся. Хіба што аднойчы за гэта пацярпеў. Гэта было ў шостым класе, калі выкладчыца Марыя Іосіфаўна Марцуляніс, мужная змагарка супраць нашай косназыкасці, задала вывучыць да наступнага ўрока лермантаўскае "На смерць паэта". А наступны ўрок -заўтра. Амаль усе пахапалі "двойкі", ну хіба што пару троек настаўніца адшкадавала за стараннасць.

Выклікала па алфавіту, мяне — адным з апошніх. Я прачытаў ёй не толькі верш, але і эпіграф **"Отмщенье, государь, отмщенье..."**, які ў школьнай хрэстаматыі наогул не друкаваўся. Гэта быў трыумф датуль, пакуль пасля ўрокаў мне не надавалі кухталёў аднакласнікі. За сам верш мо і прабачылі б, але эпіграф...

Але вернемся ў БДУ. Той кадравік, што мяне муштраваў з паперамі, у рэшце рэшт ужо адкрытым тэкстам сказаў, што трэба расшыфраваць фразу з аўтабіяграфіі — **"Бацька з сям'ёй не жыве"**.

Тую фармулёўку, дарэчы, мне таксама маці параіла. Потым аж да часоў хрушчоўскай адлігі давялося ўжываць яе неаднойчы, каб не чапляліся розныя правяральшчыкі. Пазней, ужо як пайду ў палітыку, майстры чорнага піяру перакруцяць справу так, нібыта "Шушкевіч некалі адмовіўся ад бацькі".

Ну а тады, пры паступленні ва універсітэт, мне давялося браць у аблогу яшчэ не адзін кабінет — ад сакратара прыёмнай камісіі да самога рэктара. Проста набычыўся ды цвердзіў як заведзены: вы не маеце права адмовіць у залічэнні. Савецкія законы для ўсіх роўныя.

Яны круціліся, як вужы на патэльні. Бо фармальна ніякіх падстаў для адмовы не мелі. Але мелася яшчэ і няпісаная ўстаноўка: на фізіку нядобранадзейных не браць!

Фізіка была ў пашане. Савецкі Саюз у глабальным процістаянні са Штатамі акурат незадоўга да таго выпрабаваў атамную бомбу ды шпарка ствараў вадародную. Хіба ж можна ў сферу стратэгічнай важнасці пускаць сына ворага народа?

З боем дамогся я тады залічэння. Але кляймо заставалася. У 1952 годзе мяне нечакана адхілілі ад удзелу ў вялікім, гучна разрэкламаваным мотапрабегу Мінск—Кіеў. Хоць я і быў узорным сябрам секцыі ДТСААФ, лепей за ўсіх вывучыў гонар айчыннага матацыклабудавання ІЖ-49, умеў яго рамантаваць. Нарэшце, стаў прызёрам адборачнага кросу!

Але ярлык нядобранадзейнага захінуў усе спартыўныя рэгаліі. І злапамятны рэктар Чымбург маё прозвішча са спісу ўдзельнікаў прабегу выкрасліў.

Дзякуй богу, у 1952 годзе замест гісторыка КПСС Чымбурга прызначылі геолага Кастуся Ігнатавіча Лукашова. Што да ўзроўню навуковай ды педагагічнай кваліфікацыі, той настолькі кантраставаў з папярэднікам, што я адчуў сапраўдны гонар за універсітэт ды ягонае кіраўніцтва. Першае пачуццё з тае пары мяне не пакідае, другое ж час ад часу знікае.

Дарэчы, я яшчэ не патлумачыў, чаму выбраў менавіта фізіку. На паверхні ляжаў той аргумент, што менавіта гэтая дысцыпліна давалася мне лёгка. Але была і іншая прычына, пра якую размаўлялі толькі мы з маці.

Вывучэнне, напрыклад, прыгожага пісьменства, як я ўжо распавёў, не выклікала ў мяне вялікіх цяжкасцяў. Але перад вачыма быў бацькаў лёс. Менавіта за літаратуру яму прышылі ярлык нацдэма. Таму маці і казала: ніякіх там гуманітарных навук, выбірай дакладную. Да формулаў прычапіцца цяжэй, чым да вершаў.

Што ж да літаратуры, дык дасюль зайздрошчу майстрам слова.

З Алесем Адамовічам нас зблізіў З'езд народных дэпутатаў СССР. Яго ведалі і паважалі ўсе — масквічы, ленінградцы, украінцы, узбекі. У кулуарах з'езда я нават набыў пэўны аўтарытэт, дзякуючы таму, што гаварыў з Алесем Адамовічам ды і з самім Васілём Быкавым як з даўнімі знаёмымі.

Даволі часта я прарываўся да мікрафона у зале Палаца з'ездаў і вядучы — часцей за ўсё Лук'янаў — вымушаны быў даваць мне слова.

Што да Васіля Быкава, то ён заўсёды хваліў мяне за выступленні ў прыватнай гаворцы і тым самым вельмі падбадзёрваў. Зусім інакш паводзіў сябе Адамовіч: у жартаўлівай форме рабіў крытычныя заўвагі, за якія б на другога можна было б і пакрыўдзіцца. Але праўда звычайна была на яго баку, і ён падштурхоўваў мяне да ўдумлівай працы не менш, чым Быкаў.

Там жа на з'ездзе я запрасіў Васіля Уладзіміравіча наведаць маю кафедру ва ўніверсітэце і разам з супрацоўнікамі, выкладчыкамі і студэнтамі шчыра цешыўся, калі ён прыйшоў да нас адразу пасля вяртання ў Мінск.

Дарэчы, сам я пайшоў у палітыку менавіта з кафедры, з універсітэта.

Пасля таго як у маёй акрузе абодва кандыдаты ад КПСС з трэскам праваліліся, сябры загарэліся: давай вылучым цябе! І вылучылі. Трэба было чуць і бачыць, які вэрхал узняў тады райкам і мой родны парткам БДУ. А я закусіў губу ды вырашыў даказаць сваё. Так, пад лозунгамі гарбачоўскай перабудовы, пачалося маё палітычнае жыццё.

Зрэшты, падчас застою ў нас на кафедры было зусім не шэрае жыццё. На ёй сабралася многа таленавітых і працавітых навукоўцаў і выкладчыкаў. Мы друкаваліся ў прэстыжных навуковых часопісах, былі базавай кафедрай для павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў фізікі ВНУ СССР.

Нават камуністычныя бонзы мусілі цярпець адносную незалежнасць і вальнадумства фізікаў. Бо фізікі, як тады з пафасам гаварылася, стваралі абаронны шчыт Айчыны. Дый навука такая, што не надта падступішся да яе з прапагандысцкімі лозунгамі.

*Тры Станіславы: Станіслаў Пятровіч (справа), Стасік і Станіслаў Станіслававіч.*

**Фота з сямейнага архіва.**

Адрозна ад калегаў са сферы грамадскіх навук мы не выпраўлялі свае працы ды тэзы лекцыяў адпаведна з кожным паваротам генеральнай лініі партыі. Не скажу, што былі дысідэнтамі, але дазвалялі сабе даволі гучна смяяцца над праявамі камуністычнага маразму.

Маю асобу як загадчыка універсітэцкай кафедры ядзернай фізікі неаднойчы завочна абмяркоўвалі ў апаратных колах. Чыноўнікаў проста шакіравалі тыя недапушчальна ліберальныя, на іх думку, парадкі, што бытавалі на кафедры. Там, маўляў, кожны ўчорашні аспірант паводзіць сябе з начальствам як роўня. А яшчэ супрацоўнікі перадаюць адзін аднаму ксеракопіі нейкага Карнегі ды Гумілёва... Ды яшчэ, кажуць, ён, Шушкевіч, з падначаленымі за горад на пікнікі ездзіць, тосты ўздымае, мяч на паляне ганяе ў так званых шортах. У кафедральнай насценгазеце — двухсэнсоўныя карыкатуры, жартачкі падазроныя!

Аднойчы — нечаканы тэлефонны званок.

— Сёння па плане ў вас палітзаняткі, прыйшлі правяраючыя з райкама, прымайце.

Звычайна ў час палітзаняткаў, кіраўніком якіх быў прызначаны я, мы праводзілі свайго роду "апературыйку" — непратакольнае пасяджэнне кафедры, якое хаця і называлася палітвучобай, але мела да яе даволі-такі слабое дачыненне.

Тэлефаную навуковаму супрацоўніку Аляксандру Патупе (цяпер ён узначальвае Саюз прадпрымальнікаў Беларусі).

— Сёння па плане ваш даклад на палітзанятках, будуць правяраючыя з райкама. Спадзяюся, што тэму Вы памятаеце.

— Тэму я прачытаю на дошцы аб'яў па дарозе на пасяджэнне, а з правяраючымі з райкама пазнаёмімся.

Пазнаёміліся, пачаўся даклад.

— Як вы памятаеце, — пачаў дакладчык, — сённяшнюю тэму мы разгледзелі на папярэдніх занятках і такім чынам выкраілі час для аналізу вельмі важных для нашай працы філасофскіх праблем сучасных фізічных вымярэнняў.

А далей, як у Высоцкага, "все мозги разбил на части, все извилины заплёл": расказаў аб змесце сваёй навукова-папулярнай кнігі, якая толькі што выйшла з друку.

Правяраючыя адзначылі творчы падыход і высокі ідэалагічна-палітычны ўзровень заняткаў. А райкаму партыі нічога не засталося як узнагародзіць мяне ганаровай граматай за высокі ўзровень ідэалагічнай працы на кафедры. Так яно і здарылася.

Раю тым, каго дапякаюць сённяшнія ідэолагі, выкарыстаць наш досвед.

Сталася так, што раз за разам пачалі знікаць з лабараторыі кафедры экзэмпляры падручніка "Асновы радыёэлектронікі", які я напісаў сумесна з калегам Яфімчыкам. Мы пастараліся выкласці даволі складаны матэрыял проста і як мага карацей. На 16 друкаваных аркушах месцілася праграма некалькіх курсаў па мерках тэхнічных ВНУ. У студэнтаў фізфака кніжку прасілі студэнты іншых інстытутаў, таму і знікалі асобнікі, што дрэнна ляжалі.

Дарэчы, удасканаліць падручнік дапамаглі і самі студэнты. Умовы былі ўзаемавыгадныя: за кожную недакладнасць, знойдзеную ў першым выданні, а таксама за слушную канкрэтную прапанову скараціць або палепшыць тлумачэнне адзнака на экзамене павышалася. Так што тэкст "вылізалі" да апошняй косачкі.

У 1986 годзе "Асновы радыёэлектронікі" выйшлі другім выданнем. А мы з Яфімчыкам атрымалі за яго Дзяржаўную прэмію Беларускай ССР. Галоўным аргументам для гэтага стала тое, што Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР афіцыйна рэкамендавала падручнік для студэнтаў-фізікаў ва ўсіх універсітэтах Савецкага Саюза.

На кафедры заўжды ішла і цікавая навуковая праца. Дый проста — ішло паўнацэннае жыццё. Тут пазнаёміўся і з цяперашняй жонкай — яна была маёй студэнткай.

Зрэшты, пра гэта — іншым разам.

*(Працяг будзе.)*

# 1—7 лістапада ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

## ТЭАТРЫ

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**

***2, 3 лістапада*** — Л.Герольд "Тщетная предосторожность", балет у дзвюх дзеях.

***5 лістапада*** — В.Кузняцова "Макбет", балет у адной дзеі. М.Равэль "Болеро", балет у адной дзеі.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**

***4 лістапада*** — П.Чайкоўскі "Евгений Онегин", опера ў трох дзеях.

***6 лістапада*** — М.Мінкоў "Волшебная музыка", опера-казка ў дзвюх дзеях.

**Беларускі тэатр юнага гледача**

***1 лістапада*** — Т.Габэ, Я.Шварц "Золушка", казка ў дзвюх дзеях.

***2 лістапада*** — С.Навуменка "Каліф-башмачнік", усходняя казка ў дзвюх дзеях.

***3 лістапада*** — Л.Разумоўская "Сястра мая Русалачка", казка ў дзвюх дзеях.

***4 лістапада*** — Ф.Бернет "Маленькі лорд Фаўнтлярой", спектакль у трох дзеях. *На эксперыментальнай сцэне* — С.Навуменка "Золотое сердечко", казка ў дзвюх дзеях.

***5, 7 лістапада*** — Э.Портар "Паліяна", спектакль у трох дзеях.

***6 лістапада*** — А.Хайт "Дзень нараджэння ката Леапольда", казка ў дзвюх дзеях.

***7 лістапада*** — *на эксперыментальнай сцэне* — А.Еранькоў "История любви Полосатого Кота и сеньориты Ласточки", мюзікл для дарослых ў дзвюх дзеях.

**Мінскі тэатр гумару "Хрыстафор"**

***7 лістапада*** — "Избранное", лепшыя нумары з розных праграм.

**Беларускі дзяржаўны маладзёжны тэатр**

***2 лістапада*** — Б.Шоу "Пигмалион", раман у дзвюх дзеях.

***3 лістапада*** — Ж.-Б.Мальер "Плутни Скапена", камедыя.

***4 лістапада*** — Л.Вега "Хитроумная влюбленная", камедыя.

***5 лістапада*** — А.Астроўскі "Поздняя любовь", меладрама.

***6 лістапада*** — А.Тарахоўская "По щучьему велению", казка.

***6 лістапада*** — І.Б.Зінгер "Тойбеле и ее демон", трагікамедыя.

**Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі**

***2 лістапада*** — С.Алексіевіч "Чарнобыльская малітва".

***3, 5 лістапада*** — М.Адамчык, М.Клімковіч "Чорны квадрат", кабарэ-дэтэктыў.

***6 лістапада*** — М.Рудкоўскі "Жанчыны Бергмана", псіхалагічная драма.

**Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М.Горкага**

***2 лістапада*** — Я.Купала "Раскіданае гняздо".

***3 лістапада*** — Д.Фо, Ф.Рамэ "Свободный брак", камедыя.

***4 лістапада*** — І.Губач "Адъютантъ-Ша Его Величества", камедыя.

***5 лістапада*** — В.Сігароў "Детектор лжи", камедыя.

***6 лістапада*** — "Амфитрион", інтымныя сцэны з жыцця людзей і багоў. Дж.Радары "Джельсомино в стране лгунов", музычная гісторыя.

**Маладзёжны тэатр эстрады**

***4 лістапада*** — фэст брэйк-данса.

***5 лістапада*** — "Танцы в красном".

***6 лістапада*** — "Клоуны и куклы", лялечнае шоу.

***7 лістапада*** — "Все дело в шляпе!", дзіцячая праграма.



**ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ, ХОЧАЦЕ — НЕ ВЕРЦЕ**

# Будучы тыдзень: зоркі прадказваюць

**АВЕН.** На гэтым тыдні вы будзеце адчуваць непераадольнае жаданне пакінуць свой след у гісторыі. Магчыма, вас пацягне на публічныя выступленні ці вы вырашыце ўразіць навакольных сваімі геніяльнымі ідэямі. Спачатку добра ўзважце ўсе за і супраць: калег можа напалохаць залішняя арыгінальнасць вашых думак. Спрыяльныя дні — 4 і 5, неспрыяльныя — 2 і 3.

**ЦЯЛЕЦ.** Не давярайце сваіх тайн нават тым, каго лічыце блізкімі людзьмі. Помніце: пра што ведаюць двое, даведаецца і свіння. На гэтым тыдні не варта направа і налева раскідваць грошы. Старайцеся стрымліваць свае апетыты. Ніякіх буйных пакупак! І не бярыце грошы ў доўг. Спрыяльны дзень — 1 і 7, неспрыяльны — 4.

**БЛІЗНЯТЫ.** Аптымістычны настрой дапаможа вам знайсці выйсце са складанай сітуацыі. Але ўсё ж не пераацэньвайце свае магчымасці. Стрымлівайце свае парывы. Адкладзіце на будучыню незапланаваныя траты і не гаварыце навакольным усё, што вы пра іх думаеце. Інакш нажывяце сабе ворагаў. Спрыяльныя дні — 4 і 5, неспрыяльны — 6.

**РАК.** Дзеля таго каб пакрасавацца перад навакольнымі, вы шмат на што будзеце гатовыя. А дарэмна. Мір і спакой у вашым доме — вось што вам зараз патрэбна. І ў вашых сілах пазбегнуць вайны з блізкімі людзьмі. Не пытайцеся вывесці іх на чыстую ваду і не патрабуйце ад іх справаздачы аб паводзінах, тым больш што і самі вы не без граху. Спрыяльныя дні — 1 і 2, неспрыяльныя — 3 і 7.

**ЛЕЎ.** Вас паспрабуюць запрэгчы ў чужую вупраж. Але ні ў якім разе не дазваляйце гэтага і не пагаджайцеся вырашаць праблемы пабочных людзей. Лепш звярніце ўвагу на атмасферу ў сваім доме. Блізкім неабходныя вашы ўдзел і цеплыня. Спрыяльныя дні — 4 і 5, неспрыяльных дзён няма.

**ДЗЕВА.** Вас чакае праца да сёмага поту, аднак, да вашай радасці, яна будзе высока аплачана. Толькі не спяшайцеся траціць зароблена на рэчы, якія пры добрым разглядзе вам непатрэбныя. Лепш укладзіце капітал у сваё здароўе ці знешнасць. Можна таксама ашчаслівіць блізкіх падарункамі. Спрыяльны дзень — 2 і 7, неспрыяльны — 6.

**ШАЛІ.** Вы апынецеся ў жорсткіх ціcках абставін. Але нават не спрабуйце з іх выслізнуць. Лепш прыміце сітуацыю такой, якая яна ёсць. І выконвайце ўсё, чаго ад вас чакаюць, і ўсё, што вы павінны рабіць. Не імкніцеся перарабіць навакольных — яны злеплены з іншага цеста, чым вы. Спрыяльныя дні — 4, 5 і 6, неспрыяльныя — 2 і 3.

**СКАРПІЁН.** Каб быць упэўненым у сабе, вам патрэбна добра апранацца. Пастарайцеся таксама не быць маркотным. Навакольныя не змогуць выслухваць вашых скаргаў больш за паўгадзіны. Калі вы будзеце следаваць гэтым рэкамендацыям, вам пашанцуе ў асабістым жыцці. Спрыяльныя дні — 1, 2 і 7, неспрыяльны — 4.

**СТРАЛЕЦ.** Праблемы ў сям'і будуць стрымліваць ваш рацыяналізатарскі пыл і творчы сверб. Для пачатку прыйдзецца наладзіць надвор'е ў доме, а ўжо потым рвацца ў бой на працы. У гэтыя дні вас апануе азарт, але асцерагайцеся гуляць на грошы. Спрыяльныя дні — 4 і 5, неспрыяльны — 6.

**КАЗЯРОГ.** На гэтым тыдні адно з самых моцных вашых жаданняў — выгаварыцца. І вы лёгка знойдзеце тых, хто пажадае вас паслухаць. Але не балбачыце лішняга. Тое, што вы раскажаце, можа быць выкарыстана супраць вас. І не чакайце ад навакольных, што яны вырашаць вашы праблемы. Шукаць выйсце прыйдзецца самому. Спрыяльныя дні — 1 і 7, неспрыяльны — 3.

**ВАДАЛЕЙ.** Не мяняйце коней на пераправе. Не ўносьце карэктываў у свае планы пад уплывам імгненных абставін. Пастарайцеся не звяртаць увагі на крытыку калег і хатніх. І яшчэ. Не расставайцеся з каханымі — гэта неспрыяльны час для перамен. Спрыяльны дзень — 5, неспрыяльны — 4.

**РЫБЫ.** Ёсць пагроза, што многае тайнае з вашага жыцця зробіцца вядомым усім. Так што не выдавайце навакольным сваіх сакрэтаў. Але пра штосьці яны даведаюцца і без вашай дапамогі. Не бярыце ні ў кога ў доўг і праводзьце больш часу на прыродзе. Спрыяльныя дні — 1 і 2, неспрыяльны — 6.

**ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ**

## Понедельник, 1 ноября

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12,00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 23.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 20.00** "Деловая жизнь".
**09.05** "В центре внимания".
**10.05** "Існасць".
**10.30** "Пой, душа!".
**11.05, 18.15 "Богатые и знаменитые"**. Сериал.
**12.10 "Франка".** Худ.фильм.
**13.45, 15.15** Мультфильмы.
**14.05** "Зона Икс".
**14.20** "Ваше лото". Телеклуб.
**16.05** "5 чудес".
**16.15** "Созвездие надежд".
**17.05 "Живые камни".** Сериал.
**17.30** Футбол. Видеожурнал Лиги чемпионов.
**19.15** "Земельный вопрос". Общественно-политическая программа.
**19.35** "Время спорта".
**20.05 "Возвращение Мухтара".** Сериал.
**21.00** "Панорама".
**21.50** "Специальный репортаж".
**22.00 "Дорога на Арлингтон".** Триллер.

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.00** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05** "Контуры".
**09.55 "Дикая собака Бинго".** Приключенческий фильм.
**15.10** "Угадай мелодию".
**15.35 "Женщины в любви".** Сериал.
**16.30** "СВ-шоу".
**17.00** "Пять вечеров".
**18.15** "Жди меня".
**19.05 "Клон".** Сериал.
**20.00** "Время".
**21.00** "Выбор". Ток-шоу.
**21.50 "Московская сага".** Сериал.
**23.15** "Форганг".
**23.45** "Народный артист".

**РОССИЯ**

**07.45** "Вести недели".
**08.45, 16.40 "Ундина. На гребне волны".** Сериал.
**09.40** "В Городке".
**09.50, 18.50** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50 "Бедная Настя".** Сериал.
**11.50** "Что хочет женщина".
**16.10** "Честный детектив".
**17.40 "Бандитский Петербург".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**19.55 "Каменская-3".** Сериал.
**20.55 "Конвой PQ-17".** Сериал.
**22.00** "Вести +".
**22.20** "Дежурный по стране".
**23.30** "Синемания".

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.45** Новости.
**08.10** "Чемпионы".
**08.20** ("Культура") "Линия жизни".
**09.15** ("Культура") "Кто в доме хозяин".
**09.45, 17.35 "Владыка морей".** Сериал.
**10.40, 19.20** "Женсовет".
**10.50 "Тростинка на ветру".** Худ.фильм.
**12.05 "Три тополя на Плющихе".** Мелодрама.
**14.10** "Мир природы".
**14.40** "Не зевай!"
**15.20** "Бум!"
**15.45** Мультфильм.
**16.05 "Нежный возраст".** Сериал.
**16.30** "Сама себе хозяйка".
**16.45** "Художники и Прованс". Док.сериал.
**17.10** "Сербский хозяин "Шклова".
**18.30** "Дела семейные".
**19.30 "Пекари".** Сериал.
**20.30** "Колыбельная".
**21.00** ("Культура") "Сферы".
**21.40** ("Культура") "Эпизоды".
**22.20** Футбол. Чемпионат Италии. Обзор тура.

**НТВ**

**09.00, 15.00, 18.00** "Сегодня".
**09.20** "Криминальная Россия".
**09.55 "Москва. Центральный округ-2".** Сериал.
**15.20** "Принцип домино". Ток-шоу.
**16.30 "Сыщики-3".** Сериал.
**17.35** "Чрезвычайное происшествие".
**18.40 "Строптивая мишень".** Сериал.
**19.50 "Кодекс чести-2".** Сериал.
**21.00** "Страна и мир".
**21.40** "Школа злословия".

**СТВ+RenTV**

**06.45** "Утро столицы".
**07.30** "168 часов".
**08.20, 23.15** "Технология".
**08.40** "Минск и минчане".
**08.50** "Автогонщики Наскар". Мультсериал.
**09.15, 16.05** Мультфильмы.
**09.35 "Дракула, мертвый и довольный".** Комедия.
**11.10** "Личный интерес".
**12.00** "Час суда".
**13.00** "Криминальное чтиво".
**13.30, 16.30, 19.30, 22.50** "24 часа".
**13.50 "Золушка в сапогах".** Комедия.
**14.50 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры. Потерянная галактика".** Сериал.
**15.15** "Рыцари-забияки". Мультсериал.
**15.40** "Кот по имени Ик". Мультсериал.
**16.50** "Игровой рефлекс".
**17.00 "Дружная семейка".** Сериал.
**17.50** "Минщина. Люди, события, факты".
**18.00** "Арт-экспресс".
**18.15** "Добро пожаловаться".
**18.30** "Чеченский капкан". Док.фильм.
**20.05** "СТВ-спорт".
**20.25** "Кадровый вопрос".
**20.40** "Добрый вечер, малыш".
**20.55 "Секта".** Боевик.
**23.35** "Столичный футбол".
**00.05** "Большая музыка".
**00.45** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00 "Шестой элемент".** Комедия.
**08.10, 17.50** "Телемагазин".
**08.30** "Классика Уолта Диснея".
**09.10** "К-игра".
**09.15** "Прогулки с чудовищами". Док.сериал.
**09.40 "Бригада".** Сериал.
**10.25** "К-видео" — "Топ-8".
**10.30 "Настоящая любовь".** Мелодрама.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**16.45 "Трест, который лопнул".** Сериал.
**18.00 "Крестоносцы".** Драма.
**19.45** "Мобилизация".
**19.50 "Баязет".** Сериал.
**20.45** "Вечарніца".
**21.00** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**21.10 "Говорящие с ветром".** Боевик.

**ТВ ЦЕНТР**

**Уважаемые читатели!**
**Телеканал приносит извинения за перерыв в работе в связи с профилактикой до 17.00**
**17.00, 21.00** "События. Время московское".
**17.15** "Алфавит". Телеигра.
**18.00 "Таковы эти женщины".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**18.55 "Когда деревья были большими".** Мелодрама.
**21.40** "Особая папка".
**22.20** "Времечко".
**22.50** "Петровка, 38".
**23.10** "25-й час. События. Время московское".
**23.30** "Очевидное-невероятное".
**00.05** "Магия".

**EUROSPORT**

**09.30** Ралли. Этап чемпионата мира в Каталонии. Испания.
**10.00** Мотогонки. Гран-при Испании.
**11.00, 16.30** Мото-спорт по выходным.
**11.30, 00.30** Футбол. Лига чемпионов УЕФА.
**13.00** Теннис. Турнир АТР в Швейцарии.
**14.00** Теннис. Реальная жизнь турниров WTA.
**14.30** Теннис. Турнир WTA в Австрии.
**15.30** Спидвей. Кубок мира в Великобритании.
**17.00, 19.30** Футбол. Лига чемпионов УЕФА.
**18.30, 23.30** Футбол. Еврологы.
**20.00, 01.45** Мультиспорт. "Всякая всячина".
**20.30** Сумо. Турнир (Башо).
**21.30** Боевые единоборства. "Бойцовский клуб".
**01.00, 02.15** Новости "Евроспорта".
**01.15** Ралли-рейд. Кубок мира.

## Вторник, 2 ноября

**БТ**

**07.00, 08.00, 09.00, 10.00, 11.00, 12.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00** Новости.
**07.05, 07.35, 08.10, 08.35** "Доброе утро, Беларусь!".
**07.30, 08.30, 20.00** "Деловая жизнь".
**09.05, 20.05 "Возвращение Мухтара".** Сериал.
**10.05** "Земельный вопрос".
**10.30, 17.05 "Живые камни".** Сериал.
**11.05, 18.15 "Богатые и знаменитые".** Сериал.
**12.10** "Владомирские". Док.фильм.
**12.40 "Тетя Маруся".** Мелодрама.
**15.15** "Специальный репортаж".
**15.30** Мультфильм.
**16.00** "5х5".
**17.30** "Шпилька".
**19.10** "Арсенал".
**19.35** "Зона Икс".
**19.45** "Между нами".
**21.00** "Панорама".
**21.35** Футбол. Лига чемпионов. "Барселона—"Милан". (В перерыве — Новости).
**23.40** "Витебск — мой город родной".
**00.15** Футбол. Лига чемпионов. Обзор игрового дня.

**ОНТ**

**07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 18.00, 20.30, 23.25** "Наши новости".
**07.05** "Наше утро".
**09.05, 18.55 "Клон".** Сериал.
**09.55** "Тайны века".
**10.35** "Дисней-клуб".
**15.10** "Фабрика звезд".
**15.35 "Женщины в любви".** Сериал.
**16.30** "СВ-шоу".
**17.00** "Пять вечеров".
**18.15** "Пан или пропал".
**20.00** "Время".
**21.00 "Улицы разбитых фонарей".** Сериал.
**22.15 "Московская сага".** Сериал.
**23.40** "Народный артист".
**23.55** "Не только о футболе".

**РОССИЯ**

**07.45, 19.55 "Каменская-3".** Сериал.
**08.45, 16.40 "Ундина. На гребне волны".** Сериал.
**09.45, 18.50** "Вести. Дежурная часть".
**10.00, 16.00, 19.00** "Вести".
**10.30, 19.30** "Местное время. Вести — Москва".
**10.50 "Бедная Настя".** Сериал.
**11.50** "Что хочет женщина".
**16.10 "Кулагин и партнеры".** Сериал.
**17.40 "Бандитский Петербург". "Адвокат".** Сериал.
**19.50** "Спокойной ночи, малыши!"
**20.55 "Конвой PQ-17".** Сериал.
**22.00** "Вести +".
**22.20** "Выборы в США". Док.фильм.
**23.15** "Эксперт".
**23.30 "Форс-мажор".** Боевик.

**ЛАД**

**06.30** EURONEWS.
**08.00, 14.00, 20.45** Новости.
**08.10** "Мир вашему дому".
**08.20** ("Культура") "Сферы".
**09.00** ("Культура") "Эпизоды".
**09.40 "Владыка морей".** Сериал.
**10.35, 19.20** "Женсовет".
**10.50, 19.35 "Пекари".** Сериал.
**11.45** "Обычный необычный день".
**12.35 "Душа моя, Мария".** Драма.
**14.10** "Дача+".
**14.35** "Легенда о Григе". Мультфильм.
**14.50** "Не зевай!".
**15.05** "Бум".
**15.30 "Нежный возраст".** Сериал.
**15.50** "Мой город. Ветка".
**16.05** "Время местное".
**16.40** "Лицо под гримом".
**17.10** "Отражения".
**17.30 "Пропавшая экспедиция".** Сериал.
**18.35** "Дела семейные".
**20.30** "Колыбельная".
**21.00** ("Культура") "Оркестровая яма".
**21.40** ("Культура") "Острова".

**НТВ**

**09.00, 15.00, 18.00** "Сегодня".
**09.15** "Криминальная Россия".
**09.50** "Стресс".
**10.55, 18.25 "Строптивая мишень".** Сериал.
**15.20** "Принцип домино". Ток-шоу.
**16.25 "Сыщики-3".** Сериал.
**17.35** "Чрезвычайное происшествие".
**21.30** "Страна и мир".
**22.10** "Короткие встречи".

**СТВ+RenTV**

**06.30, 17.50** "Минщина. Люди, события, факты".
**06.45** "Утро столицы".
**07.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.50** "24 часа".
**07.50** "Столичный футбол".
**08.20** "Дом, который построю я".
**08.35** "Из достоверных источников".
**08.50** "Кадровый вопрос".
**09.05** "Автогонщики Наскар". Мультсериал.
**09.30** Мультфильмы.
**10.00 "Секта".** Боевик.
**11.30** "Большой театр".
**12.00, 17.00** "Час суда".
**13.00** "Обелиски". Док.фильм.
**13.50, 18.30** "Чеченский капкан". Док.фильм.
**14.50 "Пауэр рейнджерс, или Могучие рейнджеры. Потерянная галактика".** Сериал.
**15.15** "Кот по имени Ик". Мультсериал.
**15.40 "Дружная семейка".** Сериал.
**16.50** "Турпоход".
**18.00** "Телеафиша".
**18.15** "Тема дня".
**20.05** "СТВ-спорт".
**20.20** "Закон и криминал".
**20.40** "Добрый вечер, малыш".
**20.55 "Звериная зона".** Драма.
**23.15** "Игровой рефлекс".
**23.30** "Горячий лед".
**23.50 "Секретные материалы".** Сериал.
**00.40** "Новости СНГ".

**8-Й КАНАЛ**

**07.00, 16.45 "Трест, который лопнул".** Сериал.
**08.20, 17.50, 21.00** "Телемагазин".
**08.30** Программа мультфильмов.
**09.10** "К-игра".
**09.15** "Прогулки с чудовищами". Док.сериал.
**09.40, 19.50 "Баязет".** Сериал.
**10.30 "Говорящие с ветром".** Боевик.
**16.30** "Мультпарад" от "Бюргера".
**18.00 "Крестоносцы".** Драма.
**19.45** "Атомик Филмз" и "К-видео" представляют...
**20.40** "К-видео" — "Топ-8".
**20.45** "Вечарніца".
**21.10 "Молчание ягнят".** Триллер.

**ТВ ЦЕНТР**

**05.00, 06.30** "Настроение".
**07.35** "Газетный дождь".
**07.45 "Когда деревья были большими".** Мелодрама.
**09.30** "Доходное место".
**09.35** "Войди в свой дом".
**09.40** Телемагазин".
**10.00, 13.00, 17.00. 21.00** "События. Время московское".
**10.15** "Дата".
**11.10** "Момент истины".
**12.05, 23.00** "Петровка, 38".
**12.25** "Деловая Москва".
**13.15 "Криминальный кроссворд".** Сериал.
**14.15** "Как добиться успеха. Доктор Богданов".
**14.30** "Марш-бросок".
**15.00** "Регионы: прямая речь".
**15.30** "Прорыв".
**16.00 "Уголовная полиция".** Сериал.
**17.15** "Великая иллюзия".
**18.00 "Таковы эти женщины".** Сериал.
**18.50** "Пять минут деловой Москвы".
**19.00** "Лицом к городу".
**20.00 "Записки о Шерлоке Холмсе".** Сериал.
**21.40** "Наша версия". Под грифом "Секретно".
**22.30** "Времечко".
**23.20** "25-й час. События. Время московское".
**23.45** "Супердиск".
**00.00 "Тайны Ниро Вульфа".** Детектив.
**00.55** "Синий троллейбус".

**EUROSPORT**

**09.30, 13.30, 15.00, 19.00, 20.30** Футбол. Лига чемпионов УЕФА.
**10.00, 13.00, 18.30, 00.00** Мультиспорт. "Всякая всячина".
**10.30** Футбол. Кубок УЕФА.
**12.00, 17.30** Футбол. Еврологы.
**15.30** Спидвей. Кубок мира.
**16.30, 21.00, 22.00** Бокс. Международные соревнования.
**00.30, 02.15** Новости "Евроспорта".
**00.45** Автогонки НАСКАР.
**01.45** Экстремальный спорт. "Молодежная зона".

